BirdLife
IBA
ТЭРЫТОРЫЯ
ВАЖНАЯ
ДЛЯ ПТУШАК

# НАЛІБОЦКАЕ САФАРЫ

**Вольга ЛУКШЫЦ**

Шмат на Беларусі дзівосных мясцін, адметных сваёй прыгажосцю, раслінным і жывёльным светам, многія з іх адносяцца да асоба ахоўваемых прыродных тэрыторый рознага ўзроўню. Згодна сваёй экалагічнай вартасці, большасць гэтых мясцін маюць таксама і статус ТВП – Тэрыторый, Важных для Птушак.

Вялізарны масіў, які размешчаны на тэрыторыі Мінскай і Гродзенскай абласцей і ўваходзіць у склад аж чатырох раёнаў – Валожынскага, Стаўбцоўскага, Навагрудскага і Іўеўскага, – проста не можа не мець вартасці для захавання біялагічнай разнастайнасці. Па сутнасці, пушча з'яўляецца ўнікальным леса-балотным комплексам, дзе сустракаюцца шыракалістыя і хваёвыя лясы, поплаўныя і сухадольныя лугі, нізінныя пойменныя балоты, невялікія рэчкі з розным характарам берагоў. У пушчы існуе складаная сістэма меліярацыйных каналаў, якая аказвае адмоўны ўплыў на гідралагічны рэжым мясцовасці, але, з другога боку, стварае значную мазаічнасць ландшафтаў.

Усё гэта робіць Налібоцкую пушчу адной з пярлін беларускай прыроды, але, на жаль, навукоўцы ды і проста натуралісты-аматары наведваюць яе параўнальна рэдка. Таму і сёння пушча захоўвае ў сабе шмат неразгаданых таямніц, звязаных як з жывёльным і раслінным светам, так і з яе гісторыяй.

Давайце ж зробім невялікую аўтамабільную вандроўку – амаль сафары – па Налібоцкай пушчы, якая гатова сустрэць кожнага, хто знойдзе некалькі гадзін, каб збочыць з асфальту і, праехаўшы крыху па грунтоўцы, пазнаёміцца з яе дзівоснымі жыхарамі.

Мы пачнём наша падарожжа з 87-га кіламетра шашы Мінск–Гродна, дзе перасячэм адну з асноўных рэк Налібоцкай пушчы – Іслач, якая цячэ на поўначы лясного масіва і пасля Заходняй Бярэзіны з'яўляецца другой па памерах ракой на гэтай тэрыторыі.

Дарэчы, менавіта на Іслачы гняздуецца даволі вялікая групоўка зімародка, дзякуючы якому пушча і атрымала статус Тэрыторыі, Важнай для Птушак. У гнездавы час на рацэ можна сустрэць і выводкі вялікага савука. Іслач адносіцца да басейна Балтыйскага мора, і таму тут сустракаюцца ручаёвая стронга і ліпень (харыус еўрапейскі), якія ў нашай краіне вельмі рэдкія і занесены ў Чырвоную кнігу.

Другі галоўны ТВП-утвараючы від для Налібоцкай пушчы – малы арлец, самыя вялікія яго групоўкі адзначаны на поўначы і поўдні тэрыторыі, дзе лясныя масівы чаргуюцца з вялікімі адкрытымі прасторамі, што стварае выдатныя ўмовы для гнездавання і харчавання гэтага рэдкага віду.




Літаральна праз дваццаць хвілін пасля таго, як збочым з шашы, мы апынёмся сярод парослых травой старых занядбаных палёў, дзе можна напаткаць дзікіх зуброў, якія жывуць у пушчы ўжо больш за 10 год. Найбольш спрыяльны час, каб пабачыць гэтых лясных волатаў, – пачатак восені, калі можна назіраць велізарны статак з дарослых жывёл і цялят, узімку ж часцей сустракаюцца невялікія групоўкі да дзесяці асобін. Жывёлы па зразумелых прычынах не надта палохаюцца чалавека і спакойна рэагуюць на аўтамабілі, якія едуць па ґрунтоўцы. Але найбольш за ўсё захапляе відовішча, калі ўдаецца ўбачыць зуброў, якія бягуць па лесе, – менавіта такую карціну мне давялося назіраць тут аднойчы летнім ранкам.

На паплавах, куды выходзяць падсілкавацца зубры, таксама можна напаткаць жураўлёў, арланаў, малых арляцоў. Ранняй вясной упрыцемку, стоячы дзе-небудзь на грунтоўцы, можна пачуць адначасова да пяці шэрых кугакавак і нават пугача – усе яны гняздуюцца ў навакольных лясах.

Далей наш шлях ідзе праз вялікі лясны масіў на поўдзень пушчы. Пры жаданні мы можам збочыць да Бярэзіны, дзе знаходзіцца яшчэ адно з асноўных месцаў гнездавання зімародка. У спякотны дзень Бярэзіна з павольнай плынню, празрыстай вадой і пясчаным дном – адмысловае месца, каб крыху адпачыць і акунуцца. Па дарозе на поўдзень мы перасячэм адну з невялікіх, але вельмі цікавых рэчак – Волку, бязлітасная меліярацыя закранула і яе, але ў асноўным паплавы і асаковыя балоты па рачных берагах захаваліся ў першасным выглядзе. Ранняй вясной тут можна назіраць групоўкі жураўлёў, якія вярнуліся на родныя балоты, каб выгадаваць птушанят, а на сухіх пагорках уздоўж дарогі, месцамі ў вялікай колькасці, грэюцца вужы і гадзюкі, якія толькі-толькі павыпаўзалі з зімовых сховішчаў. З красавіка пойма літаральна гудзе ад свісту пагонічаў, бляяння бакасаў і «хоркання» слонак, якія ўпрыцемку вылятаюць сюды з навакольных алешнікаў.

Падчас падарожжа праз пушчу ў нас ёсць неблагія шанцы, акрамя зуброў, пабачыць і астатнія чатыры віды капытных, якія вольна жывуць у нашых лясах, а калі падчас падарожжа ўважліва прыглядацца да паверхні грунтоўкі, то можна ўбачыць сляды ваўка і нават рысі, асабліва ўзімку, на свежым снезе, калі адбіткі лап выглядаюць не горш, чым малюнкі ў альбоме. У пушчы няма хіба што мядзведзя, а ўсе іншыя рэдкія і пагражаемыя віды драпежных млекакормячых сустракаюцца тут з даволі высокай шчыльнасцю. Дзякуючы вялікай агульнай працягласці рэк тут у дастатковай колькасці жыве і такі цікавы звер, як выдра – калі пашанцуе, яе ўзімку падчас гону можна сустрэць нават на лёдзе.

Рухаючыся ўздоўж Жоўта-Нёманскага канала, дзе аднойчы зімой мне давялося назіраць арла-маркута, мы зможам апынуцца на самым поўдні пушчы на беразе бацькі-Нёмана каля мястэчка Любча, адкуль ужо недалёка і да першай сталіцы Вялікага княства Літоўскага – Навагрудка. Нездарма князь Міндоўг абраў гэтае месца для будучага галоўнага горада вялікай дзяржавы. Можна меркаваць, што суседства сталіцы з Налібоцкай пушчай было запланавана нездарма. Ды й ўвогуле, калі паглядзець на мапу, дык можна заўважыць, што большасць знакамітых старажытных замкаў знаходзіцца па краях лясного масіву: Крэўскі, Навагрудскі, Любчанскі, Мірскі. У больш позні час землі Налібоцкай пушчы належалі роду Радзівілаў. У Івянцы рабілі адны з лепшых на той час ганчарныя вырабы, у мястэчку Рудня Налібоцкая размяшчалася гута, дзе выраблялі шкло, а сама пушча ў тыя часы служыла людзям невычэрпнай крыніцай прыродных багаццяў...

У пасляваенныя гады на тэрыторыі пушчы быў створаны запаведнік з адпаведным ахоўным рэжымам, які, на жаль, існаваў не вельмі доўга. Зараз Налібоцкая пушча з'яўляецца Дзяржаўным ландшафтным заказнікам, згодна рэжыму якога ні высечка лясоў, ні паляванне з рыбнай лоўляй тут не забаронены...

Зразумела, што падчас нашага невялікага сафары па Налібоцкай пушчы мы атрымалі магчымасць прагледзець толькі яе «рэкламны ролік», своеасаблівую «візітную картку». На самой жа справе гэты старажытны лес, які знаходзіцца ўсяго ў гадзіне няшпаркай язды ад сталіцы, захоўвае ў сваіх нетрах незлічоную коль-касць таямніц, якія яшчэ чакаюць сваіх даследчыкаў.



# БЕНЕДЫКТ ДЫБОЎСКІ. ДАЛЁКІ УСХОД І КАМЧАТКА

**Дзьмітры ВІНЧЭЎСКІ,** Гродзенскае абласное аддзяленне АПБ

***(Заканчэнне. Пачатак у № 14)***

Яшчэ летам і ў пачатку восені 1868 г. Бенедыкт Дыбоўскі быў запрошаны ў якасці лекара і натураліста ў экспедыцыю генерала Скалкова ў басейн Амура, Усуры і возера Ханка, дзе ён даследаваў у асноўным мясцовых рыб. Аднак менавіта тут яму пашчасціла апісаць новую форму плямістага аленя, які цяпер прызнаецца асобным падвідам *(Cervus nippon hortulorum)* і па-англійску мае назву «плямісты алень Дыбоўскага» (Dybowski's sika). Дзякуючы падтрымцы генерала навуковец стварае праграму далейшых магчымых даследаванняў на Далёкім Усходзе.

У пачатку 1872 г. Дыбоўскі разам з сябрамі атрымаў дазвол на самастойнае падарожжа ў даліну рэк Амур і Ўсуры. На ўласнаручна збудаваным чоўне са шматлікімі прыгодамі яны па Амуру дабраліся да Благавешчанска, а адтуль да (сённяшняга) Хабараўска. З прыпынкамі на даследаванні і зімоўку ў 1874 г. трапілі ва Ўладзівасток, дзе цяжка захварэў Гадлеўскі, а ў 1875 г. – на востраў Аскольд.

Пра некаторыя вынікі даследавання птушак Дыбоўскі напісаў так: *«Нягледзячы на пачатак зімы і снег, які ўжо выпаў у Благавешчанску, нам атрымалася здабыць экземпляр маладога туземнага бусла. Пржэвальскі сцвярджае, што амурска-усурыйскі бусел нічым не адрозніваецца ад еўрапейскага, між тым з першага погляду мы пераканаліся, што гэта новы від: ужо адна падоўжаная дзюба ўяўляе такое сур'ёзнае адрозненне, што ў гэтым не засталося ніякага сумнення. Гэты від бусла я назваў Ciconia Taczanowskii. Пасля прэпаравання, праўда, не вельмі ўдалага, я адаслаў яго ў Варшаву. Тачаноўскі прызнаў гэты малады экземпляр недастатковым для апісання і чакаў лепшых, якія мы даставілі ўжо ў наступным годзе з Усур'і. Па гэтых новых экземплярах было зроблена падрабязнае апісанне і выдатны малюнак, аднак, на няшчасце, запозна: нас апярэдзіў у гэтых адносінах Swinhoe, які апісаў той жа від бусла па жывых экземплярах, прысланых з Японіі ў Лондан і назваўшы яго C. boyciana. Такім чынам, гэтая форма, з такой радасцю сустрэтая намі ў Благавешчанску, была для нас страчаная».*



Усю зіму 1875–76 гг. даследчыкі жылі на Байкале, дзе *«правялі новыя вымярэнні, прычым нам атрымалася здабыць вельмі многа новых відаў ракападобных».* У 1876 г. былыя катаржане атрымалі вестку, што яны могуць вярнуцца на Радзіму. Ссылка скончылася дзякуючы заступніцтву шматлікіх расійскіх вучоных. За заслугі ў вывучэнні фауны Сібіры цар амніставаў былых паўстанцаў і вярнуў ім шляхецкую годнасць. Акрамя таго, Дыбоўскаму была прапанавана пасада прафесара ў Томскім універсітэце, а таксама дадатак «Байкальскі» да прозвішча. Ад апошніх прапаноў Дыбоўскі адмовіўся, але ўжо планаваў наступныя навуковыя экспедыцыі ў Азіі.

Амніставаны, ён разам з калекцыямі накіраваўся ў Пецярбург і Варшаву, адкуль у пачатку студзеня 1878 г. выехаў назад у Азію, і толькі ў чэрвені наступнага, 1879, года дабраўся ў Петрапаўлаўскі порт як адзіны ўездны доктар на ўсю Камчатку. За наступныя 4 гады, як успамінаў навуковец, *«мы пяць разоў аб'ехалі ўвесь паўвостраў з медыцынскімі мэтамі, а таксама для збору заалагічных калекцый (прычым чатыры разы на сабаках, а адзін раз летам на конях) і неаднаразова наведалі Камандорскія астравы».*

Дыбоўскі даў апісанне мясцовых кліматычных умоў, апісаў флору, рэкі і азёры, падрыхтаваў рэкамендацыі па развіццю сельскай гаспадаркі, змагаўся з эпідэміямі і стаўленнем мясцовага чыноўніцтва да карэнных жыхароў, вывучаў побыт айнаў і ітэльменаў (абарыгенаў Сахаліна і Камандорскіх астравоў), склаў першыя слоўнікі іх моў. Ён стаў добра вядомы мясцовым жыхарам, ад якіх атрымаў мянушку «Добры Белы Бог».

Як чалавек неабыякавы, у 1880 г. Дыбоўскі дамогся рэгуляцыі сабалінага промыслу на Камчатцы, і дзякуючы яму была ўведзена забарона на паляванне з 1 сакавіка па 15 кастрычніка. А яшчэ праз 2 гады было афіцыйна зацверджана хадайніцтва жыхароў Петрапаўлаўскай акругі, якое ён складаў, аб абвяшчэнні забароны на дабычу сабалёў у раёнах Асачы і Кронак.

*«Адпаведна нашым абмежаваным сродкам мы сабралі ўсё, што было магчыма. Запланаваныя біялагічныя даследаванні прыйшлося абмежаваць да вельмі сціплых памераў з-за адсутнасці падтрымкі і спачування мясцовых уладаў. За спробы прыпыніць злоўжыванні купцоў і духавенства нам прыйшлося зведаць шмат непрыемнасцей. Упэўніўшыся ў дарэмнасці старанняў аблегчыць лёс эксплуатуемых туземцаў, я быў вымушаны тэрмінова рэціравацца і, выкарыстаўшы своечасова дасланае запрашэнне заняць кафедру ў Львове, я пакінуў Камчатку»,* – напісаў праз 17 год Дыбоўскі.

За новыя навуковыя дасягненні цар адзначыў Дыбоўскага ордэнам Св. Станіслава ды тытулам надворнага радцы, а Пецярбургскі універсітэт прапанаваў яму ўзначаліць кафедру заалогіі. Аднак заолаг вырашае змяніць падданства і выбірае выкладанне ў Львоўскім універсітэце (у той час на тэрыторыі, якая належала Аўстра-Венгрыі).

Экспанаты, якія ён вывез з Камчаткі (агульнай вагой больш чым за 11 з паловай тон), паступілі ў заалагічныя кабінеты Львоўскага і Варшаўскага універсітэтаў.

### У Львове

Львоўскі універсітэт запрасіў Дыбоўскага заняць вакантную пасаду загадчыка заалагічнага інстытута (кафедры) на філасофскім факультэце.

У Львоў навуковец прыехаў толькі ў 1884 г. з 60 скрынямі розных экспанатаў. Тут Дыбоўскі, акрамя чытання вельмі цікавых лекцый, займаўся апрацоўкай матэрыялаў, сабраных пад час сваіх экспедыцый, арганізаваў заалагічную лабараторыю, заснаваў на базе збораў, уласных і папярэднікаў, заалагічны музей (колькасць экспанатаў павялічылася з 3310 у 1884 г. да 116 465 у 1906 г.) і выдатную бібліятэку пры ім.

У 1903 г. на Камчатку са Львова прыбыла археалагічная экспедыцыя. У знак удзячнасці да Дыбоўскага алеут Сініцын перадаў яму ў якасці падарунка поўны шкілет марской каровы – віду, знішчанага людзьмі яшчэ ў XVIII ст. (Дыбоўскі беспаспяхова шукаў парэшткі гэтай жывёлы падчас свайго жыцця на паўвостраве). Гэты шкілет выслалі ў Львоў, дзе ён заняў сваё пачэснае месца ў заалагічным музеі. Потым камчадалы знайшлі і перадалі Дыбоўскаму яшчэ два шкілеты марскіх кароў, іх навуковец адправіў у музеі Варшавы і Вены. Акрамя заалогіі, параўнальнай анатоміі і філасофіі прыроды, легендарны даследчык чытаў курс антрапалогіі. Б. Дыбоўскі настаяў, каб у Львоў запрасілі з Варшавы Іосіфа Нусбаўма-Гіляроўскага, які фактычна стаў заснавальнікам львоўскай заалагічнай школы. А сам Дыбоўскі найлепш адчуваў сябе не за кафедрай, а ў палявых даследаваннях і ў музейнай справе. У 1886-1887 гг. яго абіралі на пасаду дэкана філасофскага факультэта, у 1900 г. – рэктарам, аднак ён кожны раз адмаўляўся заняць гэтыя пасады.

У сваіх навуковых працах і лекцыях прафесар Дыбоўскі адкрыта падтрымліваў тэорыю эвалюцыі Дарвіна, публічна выступаў супраць рэлігіі, за раўнапраўе жанчын, за што яго ўзненавідзела каталіцкае духавенства і некаторыя калегі па універсітэце. Даходзіла да таго, што супраць яго арганізоўваліся выступленні ў газетах, часам зрывалі лекцыі. Нападкі павялічыліся, калі Дыбоўскі выступіў у львоўскім друку ў падтрымку рабочых у час рэвалюцыі 1905 г. У верасні 1906 г. рэктар вымусіў яго сысці на пенсію. Пасля гэтага грамадскасць Львова сабрала грошы, купіла кавалак зямлі і пабудавала для Дыбоўскага камяніцу (сённяшні адрас – вул. Кубанськая, 12).

На пенсіі Дыбоўскі працягваў не толькі аналітычную працу, але і палявыя даследаванні: усебакова вывучаў азёры Польшчы і Палесся (у Заходняй Украіне і Беларусі).



Львоўскі універсітэт

### Новая ссылка ў Сібір?

Пасля смерці ў 1910 г. у Беларусі малодшага брата Уладзіслава, Бенедыкт Дыбоўскі пераехаў да сястры ў маёнтак Нянькова на роднай Навагрудчыне. Першая сусветная вайна застала яго там. Як аўстрыйскага падданага царскі ўрад тэрмінова загадаў выслаць яго за Урал. Дыбоўскі папрасіў выслаць яго ў Іркуцк, але мясцовыя ўлады заўпарціліся, і 81-гадоваму навукоўцу прапанавалі перасяліцца ў... Якуцію. Толькі заступніцтва шматлікіх расійскіх навукоўцаў выратавала Дыбоўскага ад паўторнай ссылкі. Хутка ў Нянькова прыйшлі нямецкія войскі, і былога прафесара ў прамым сэнсе выкінулі на вуліцу. Аднак і тут у Дыбоўскага знайшоўся знакаміты заступнік. Унук Ґумбальдта, афіцэр нямецкай арміі, выклапатаў для старога прафесара дазвол вярнуцца ў Львоў. Тут разам з сястрой навуковец і пратрымаўся да канца вайны.

Праз нейкі час жыццё наладзілася, і Дыбоўскі ўзнавіў свае кантакты з вучонымі Сібіры. Ён працягваў цікавіцца вынікамі даследаванняў Камчаткі і Байкала, даў шмат каштоўных парад. У 1921 г. Варшаўскі універсітэт выбраў яго ганаровым доктарам, у 1923 г. – Віленскі універсітэт (пасля роднага Львоўскага) абраў яго ганаровым прафесарам. У 1927 г. Акадэмія навук СССР выбрала Дыбоўскага сваім замежным членам-карэспандэнтам. Да самай смерці Дыбоўскі заставаўся актыўным дзеячам атэістычнага і антыалкагольнага руху, выступаў за развіццё і пашырэнне эсперанта, апрацоўваў свае багатыя заалагічныя калекцыі.

31 студзеня 1930 г., на 97-м годзе жыцця, Бенедыкт Дыбоўскі памёр. Хавалі яго з вайсковымі ўшанаваннямі як апошняга ўдзельніка паўстання 1863 г. Яго магіла і цяпер знаходзіцца каля помніка паўстанцам на львоўскіх Лычакоўскіх могілках.

### «Ісціна – адна для ўсіх»

Розныя крыніцы падаюць розную колькасць навуковых і публіцыстычных прац Б.Дыбоўскага – ад 186 да 350! (Некаторыя навуковыя працы прафесара выйшлі ўжо пасля яго смерці).

Імя Бенедыкта Дыбоўскага назаўсёды застанецца ў родавых і відавых назвах шматлікіх жывёл, якіх ён апісаў сам і якіх іншыя заолагі назвалі ў яго гонар.

У 1997 г. па рашэнні мэрыі Іркуцка яго імем была названа адна з вуліц горада. У 2000 г. рашэннем навуковай рады біялагічнага факультэта Львоўскага нацыянальнага універсітэта імя І.Франко заалагічнаму музею было прысвоена імя прафесара Бенедыкта Дыбоўскага. Ва ўжо незалежнай Украіне дом Дыбоўскага быў адрэстаўраваны, і цяпер там займаюцца гурткоўцы Львоўскага гарадскога дзіцячага эколага-натуралістскага цэнтра. Імя знакамітага заолага носіць і адна з гор на Камандорскіх астравах.

Замест эпілога хочацца прыгадаць словы Дыбоўскага, у якія, напэўна, укладзена яго жыццёвая філасофія: «*...Антрапалагічныя даследаванні павінны канчаткова пераканаць чалавецтва ў тым, што ўсе мы браты, што ўсе расы здольныя да прагрэсу ў развіцці культуры і цывілізацыі. Работа антраполагаў павінна быць накіравана на выкараненне расавых, племянных і нацыянальных забабонаў. Павінна быць адзіная міжнародная мова, адна рэлігія, адна мараль і этыка. Доўг чалавека перад бліжнім – любіць яго, як самога сябе, доўг чалавека перад навукай – паважаць яе і на ёй будаваць свой светапогляд, доўг перад гісторыяй, традыцыяй і ўсялякага роду паданнямі – умець разумець і адбіраць з іх толькі тое, што стасуецца з навукай. Ісціна – адна для ўсіх. Не існуе праўды каталіцкай, праваслаўнай, магаметанскай...*»

***Дзякую Васілю Грычыку за каштоўныя заўвагі да зместу артыкула.***




# ДОЖДЖ, ПТУШКІ І ДОБРЫ ГУМАР

## Рэпартаж з 6-га чэмпіяната па спартыўнай арніталогіі

**Андрэй АБРАМЧУК,** Заходне-Палескае рэгіянальнае аддзяленне АПБ

Кожны з сябраў каманды рыхтаваўся да чэмпіянату па-рознаму, са сваімі асабістымі пачуццямі і чаканнямі. Адно абагульняла дакладна: апошні тыдзень напярэдадні – усе думкі толькі аб спаборніцтвах. З месцам вызначыліся хутка, хоць і было некалькі варыянтаў. Галоўнае – выбраць добры водны аб'ект, але добра, каб і лес быў побач, і палі, і населеныя пункты. Каля вады і на вадзе можна адзначыць да 50 відаў, у лесе каля 30, столькі ж – на палях і ў вёсках. Вырашылі ехаць у накірунку Мінска. Рыбгасы «Лактышы» і «Чырвоная Слабада» – добрыя водныя аб'екты. Гэта пацвердзіў і дэталёвы аналіз вераснёўскіх улікаў водна-балотных птушак за апошнія два гады. У пачатку восені ў гэтых рыбгасах можна адзначыць некалькі дзесяткаў відаў водна-балотных птушак, непадалёк добры лес, ёсць палі і вёскі.

Каманда «Цім-бай» – берасцейска-маларыцкая. Ад месца жыхарства да месца старту амаль 300 км. Дабіраліся рознымі шляхамі. Частка разам з кіроўцам на аўтамабілі. Частка – цягнікомі праз Баранавічы і Ганцавічы. Гэта, пэўна, крыху заблытала супернікаў, бо да апошняга ніхто не ведаў, адкуль каманда будзе стартаваць. Але нарэшце а 20-й гадзіне ўсе сабраліся разам ля вогнішча. Месцам старту абралі вёску Будча, што знаходзіцца паміж двума рыбгасамі на мяжы Брэсцкай і Мінскай абласцей. Павячэраўшы і яшчэ раз абмеркаваўшы маршрут, леглі спаць.

Пачатак спаборніцтваў быў інтрыгуючы – у 4.30 пачаўся дождж, і амаль да 13-й гадзіны ліло бесперапынна. А нават калі і былі хвіліны перапынку, дождж сціхаў, і здавалася, вось-вось скончыцца, з-за капелі ў лесе вельмі складана было што-небудзь пачуць. Але ж і гэта не без карысці, бо праз гадзіну слухання падаючых кропляў, мы вельмі добра навучыліся адрозніваць мову дажджу. Калі ён вось-вось скончыцца, калі ўзмацняецца, а калі мусіць нудна шамацець на працягу доўгага часу...

Пасля 11 гадзін амаль усе перамяшчэнні па мясцовасці – бягом! На спідометры – 110, раптам кіроўца ціcне на тормаз! Галубы на правадах – ёсць яшчэ два новыя віды. Літаральна праз хвіліну спіс папоўнілі малы арлец, сокал-кабец, вялікі грычун. Наступны прыпынак – вёска Дзяніскавічы. Гарадская ластаўка, дамовы верабей, лугавы ерчык... А дзе ж грак, каўка, кольчатая туркаўка? Забягаючы наперад, скажу,


**«Цім-бай» – Аляксандр Рак, Андрэй Абрамчук, Марына Дзямешка, Аляксандр Сербун**

што сустрэць гэтыя віды так і не атрымалася. Часу застаецца ўсё меней! Далей па меліярацыі паміж вёскамі Дзяніскавічы і Чудзін – 17 кіламетраў. На хуткасці 60–90 кіламетраў з кароткімі прыпынкамі адзначылі яшчэ 5 відаў. Ледзьве не праехалі 4 палявых жаўрука, 3 звычайныя туркаўкі сядзелі на ЛЭП, 15 шэрых жураўлёў ляцелі ўздоўж дарогі, змагаючыся з намі навыперадкі. Чарговы прыпынак: з машыны здалося, што зноў галубы. Прыгледзеўшыся, высветлілі, што ніякія не галубы, а сокал, нават два. Зноў кабец? Але рыжая галава і ніз цела дазволілі зрабіць адназначную выснову – сокал-шулёнак, самка. Другая птушка была маладой асобінай таго ж віду. Невядома як завітаўшая на палі арэхаўка была заўважана вострым вокам Аляксандра Сербуна.

Дождж нарэшце скончыўся, а настрой значна палепшыўся! Шэры дрозд, канаплянка. У 12.59 маем 87 відаў, часу амаль не застаецца! Ляцім на рыбгас «Чырвоная Слабада», што на Міншчыне. Дарогі пасля дажджу размыла. Там, дзе ўчора ехалі з хуткасцю 80–90 км/г, сёння нават 60 выглядала экстрымам. Шлях туды замест 30 хвілін займае ў два разы больш. Толькі ў 13.56 мы былі на рыбга́се. Апошнія 5 відаў – за 15 хвілін. Трэба вяртацца, бо застаецца 40 хвілін, а шлях на рыбгас заняў амаль гадзіну.

У лесе праз адчыненае акно чуем голас вялікага дзятла – але толькі ўдваіх. Спыняемся. Чакаем хвіліну, дзяцел маўчыць. Больш чакаць няма калі. У 14.55 мы былі ля вёскі. Да фінішу застаецца яшчэ каля двух кіламетраў, але з паўкіламетра нам прыйшлося спешыцца і бегчы, бо машына разам з пасажырамі проста не змагла пераадолець размыты ўчастак грунтоўкі. Апошнія крокі праз мост і цяжкі кавалак дарогі застаецца ззаду. Амаль без сіл падаем на сядзенні машыны. Далей застаецца каля кіламетра праз вёску. Па дарозе бабулька вельмі павольна па вялікай дыяганалі пераходзіць шлях – чакаем! Нарэшце, месца старту-фінішу, дзе хуткай хадою, дзе бежкі, але ж паспелі. Фініш у 15.02, вынік – 93 віды. www.birdwatch.by паведаміў – дзве каманды праінфармавалі аб прамежкавым выніку 90 відаў, адна – 100 відаў. Разумеем, што першымі ўжо не будзем. Застаецца 2-е ці 3-е месца! Паўгадзіны чакання – і ёсць канчатковы вынік: у каманды «Dream Team» 102 віды. Яна першая! Фінска-беларуская каманда «Лінту» з вынікам 94 віды – другая. Каманда «Цім-бай» – 93: мы – трэція! Трэція – не першыя, але які гэта быў вынік! Насуперак дажджу, размытым дарогам, часова сапсаванай оптыцы, кепскаму самаадчуванню некаторых удзельнікаў...

Першае месца заняла сапраўды дастойная каманда. Каманда, якая ішла да гэтай перамогі шэсць год. Каманда, якая заўсёды была сумленнай і падчас спаборніцтваў і пасля іх! Каманда, якая ўмее з гонарам прымаць і перамогу і паражэнне, якое, дарэчы, заўсёды было вельмі ўмоўным – хлопцам не хапала да першага месца літаральна двух-трох відаў. Шчыра віншуем каманду пераможцаў «Dream Team»! Але ў наступным годзе трымайцеся – з «Цім-бай» лёгка не будзе!

*(Друкуецца са скарачэннямі. Поўная версія на сайце Birdwatch.by)*

# ВСТРЕЧА С СОЛОВКАМИ,

## или Зоологические приключения белорусов на Белом море

### Путевые заметки путешественника

**Денис Китель,** Западно-Полесское региональное отделение АПБ

**Острова птиц и зверей**

Лето 2008 года осталось в памяти как пора определенно нового направления на моем жизненном пути. Вместо песчаных солнечных пляжей, разноцветных купальников и нежно-розовых закатов в тихий теплый вечер на этот раз я выбрал суровый северный край. По предложению своей старой знакомой я отправлялся в безумное и неизвестное, а поэтому заведомо незабываемое путешествие на Соловецкие острова в Белом море, в простонародье – Соловки, знаменитое место, где свершалась история и рушились судьбы...

Окончательно определившись с маршрутом, я сразу же твердо решил для себя никоим образом не касаться на Соловках ничего человеческого (или бесчеловечного?) и полностью отдаться любимому делу – наблюдению за природой и ее обитателями.

То, что из этого получилось, перебрав полевые записи и дневники, я постарался достоверно изложить в этой заметке. Итак...

Во время одного из первых выходов в тайгу я заблудился, и самое мудрое, что пришло в голову, – по компасу выйти к морю и вернуться берегом. Вышел в небольшой заливчик, ограниченный с боков длинными языками земли, а с моря – островом, поросшим корявыми соснами и карельскими березками. Был как раз отлив, и отступающая вода обнажила лежащие на мелководье белые камни. Иногда они казались стеной разрушенного замка, в иных местах высились, словно пьедесталы памятников великим людям, по каким-то непонятным причинам покинутые своими каменными же хозяевами. На одном из камней я высмотрел пятнистый бок кольчатой нерпы *(Pusa hispida)*, блестящий в неярких лучах скупого северного солнца. Раскинув ласты, животное принимало солнечные ванны и находилось в такой беззаботной неге, что потревожить его было бы преступлением.

Чуть позже, на противоположной стороне острова, я смог наблюдать рыбачащего тюленя. И в очередной раз получил доказательства исключительности этих морских обитателей. «Они похожи на живые мешки с картошкой!» – как-то заключил мой друг, когда мы впервые увидели тюленей в Швеции. Появись он сейчас рядом со мной – немедленно забрал бы свои слова обратно! Невозможно описать, как изумительно легко и грациозно двигается в воде это ластоногое, кажущееся на суше верхом неуклюжести.



ФОТО: АРХИВ АПБ

Чистик

Наблюдение за жизнью таежных обитателей было увлекательным занятием, занимавшим обычно весь день. На Соловках нет клещей, змей и хищных зверей. Единственная «нечистая сила», обитающая на острове и заслуживающая отдельного внимания – комары. Местные жители даже приписывают им умение разрабатывать стратегии нападения на человека. Звучит смешно, но с наступлением вечера становилось не до смеха, и в эту гипотезу мы начинали верить все больше и больше. Мне приходилось видеть людей, которые вечером даже в ясную погоду надевали накомарник и заворачивались в плащ-дождевик. Соловецким комарам следует отдать дань уважения – они смогли подчинить себе весь остров!

В отличие от Беларуси, где чернозобая гагара – редкий «краснокнижник», на острове они водились во множестве. А вот гагар краснозобых *(Gavia stellata)* видно не было, хотя по орнитологической сводке А.Е. Черенкова «Птицы Соловецких островов» здесь она даже обычней предыдущего вида. Разрешить этот вопрос мог только сам Александр Евгеньевич, поэтому, набравшись смелости и наглости, я пошел по имевшемуся у меня адресу. Принял он меня очень радушно, угостил чаем с пряниками и предложил назавтра пойти вместе наблюдать птиц. А в последний день моего пребывания на островах он любезно предложил воспользоваться катером и прокатиться по близлежащим островам архипелага.

**В колонии чистиков**

За бортом, поблескивая черными спинами, выделывали пируэты чистики *(Cepphus grille)*, и только белые плечи, словно фонари ночью, выдавали птиц, когда те под водой гнались за косяком рыб. С нашими белорусскими птицами чистиков сравнивать трудно, а представителей этого семейства у нас нет. Размером с ворону, с сильно отнесенными к задней части туловища ногами ярко-розового цвета, с так же ярко окрашеной и внутренней поверхностью клюва, от чего, когда чистик свистит, возникает впечатление, что он, словно Змей Горыныч, извергает языки пламени.

Неожиданно Александр Евгеньевич повернул к ближайшему островку и указал на крутой каменистый склон берега, стесанный, словно гигантской хлеборезкой. Именно там между камнями чистики устраивали свои норы и выводили птенцов. При нашем появлении на острове птицы дружно засвистели, демонстрируя ярко-алые рты, и подплыли вплотную к берегу. В поисках жилых нор без страха и опасения мы с А.Е. обследовали камень за камнем, засовывая руку в нору по самый локоть – окажись я в тропиках, никогда бы не делал подобного! И, наконец, «оно» свершилось: меня таки кто-то схватил за палец и сжал, словно тисками. Когда же на свет белый был извлечен очаровательный пушистик с черными бусинками-глазами, розовым ротиком и смешными «пингвиньими лапками», удивлению моему не было предела. Несмотря на неказистость конечностей, этот очаровашка, тем не менее, заметив мое смущение, дал с их помощью такого деру, что нам снова пришлось выковыривать его из-под камней. От малыша сильно пахло рыбой. Живот грузно обвисал на ноги, было похоже, что он только что поел. Дабы развеять все сомнения на этот

счет, молодой чистик тут же доказал правильность моих умозаключений, оставив мне на новых штанах живописное белое пятно.

На этом же острове, поднявшись метров на двадцать выше колонии чистиков, мы были атакованы парой безумцев-поморников *(Stercorarius parasiticus)*. Птицы явно защищали свое гнездо. Словно истребители, пилотируемые сумасшедшими летчиками, поморники по очереди выделывали под самым нашим носом мертвые петли, бочки, и прочие штучки из области высшего пилотажа. Покажи они это перед аудиторией цирка, наверняка вызвали бы шквал аплодисментов.

Безжизненный тундровый пейзаж простирался на сотню метров во все стороны. Остров размером был как два футбольных поля, и травяное покрытие вполне подошло бы для проведения матча, не будь оно усеяно на каждом шагу гнездами полярной крачки *(Sterna paradisea)*. Появление чужаков в колонии вызвало панику среди птиц. Немного успокоившись и заметив, что чужаки никуда не собираются уходить, птицы приступили к плану «В» – активные меры защиты. Стоило только отвернуться, как мощный удар острым клювом в затылок вынуждал присесть. Начинаешь искать обидчицу, чтобы погрозить ей кулаком, как сразу же получаешь очередной удар в самую макушку. На данном этапе лучше всего покинуть колонию, так как претворение в жизнь плана «С», по словам А.Е., обычно оставляет на коже не только маленькие, но достаточно глубокие ранки, но также и целую композицию из белых пятен на одежде и открытых участках тела.

Определив примерные границы гнездового участка поморников, мы очутились в окружении громадного числа небольших белых и серых камней величиной с волейбольный мяч. Обоих птенцов обнаружил А.Е. И это неудивительно: идентифицировать неподвижные комки пуха и перьев такого же цвета, как и окружающие их камни, – задача, напомнившая мне поиск знаменитой иголки в стогу сена. Поморничьи пуховички вели себя образцово и, я бы даже сказал, аристократично. Правда, один из них пытался оттяпать мне палец своим детским несоразмерно большим и сильным клювом, словно ребенку дали в руки плоскогубцы, и он неумело, но усердно пробует вас ими ухватить.

### Встреча с китами

Несколькими днями ранее наша компания решилась посетить еще одно достопримечательное место, а именно – мыс Белужий. Получил он свое название за наибольшую привлекательность для небольших («всего» до 6 метров) китов-белух *(Delphinapterus leucas)* в период образования пар и брачных игр. Ежегодно к островам в это самое место приплывают десятки животных, чтобы дать начало новой жизни.

Весь предыдущий день мне нездоровилось, и я сражался с помощью таблеток и самовнушения с прихватившими одновременно животом и головной болью... Такая полярность ощущений вызывает сейчас лишь улыбку, но тогда она могла стать причиной, испортившей каникулы. Не знаю, что помогло больше (таблетки или самовнушение), но утром запланированного дня я словно заново родился. Переход в десять километров через болота и тайгу, а после по линии отлива оставил приятные впечатления и запись в дневнике про овсянку-крошку *(Emberiza pusilla)*, мой новый вид!

Вконец замучившись, мы вышли на небольшую возвышенность, куда не добирается вода в прилив. Выкрутили промокшую одежку, перекусили... и только тогда заметили резвящихся под самым берегом десяток белух!!!

Вскочив на ноги, словно на меня вылили кипяток, я сфокусировал зрительную трубу на край мыска и с удовлетворением отметил в зоне видимости окуляра серые и белые спины без плавника (отличительная особенность белух).

Подойдя ближе, мы смогли лучше рассмотреть этих удивительных животных. Некоторых из них украшали глубокие старые шрамы. Какие приключения они пережили – остается только гадать: встреча с акулой или косаткой оставили такие напоминания о себе?.. Любопытные мордочки иногда высовывались из воды и смотрели в мою сторону. И ничто не сдвинуло бы меня с моего поста, не приметь я в ста метрах еще двадцать белух...

### Загадка краснозобой гагары

– У нас еще осталось немного свободного времени, – сказал мне Александр Евгеньевич, привязывая катер на пристани. – Пойдем, покажу тебе краснозобую гагару! Я знаю, почему ты ее не видел. Уверен – удивишься!

Оставалось чуть больше часа до того момента, как я должен был покинуть остров, но бёдоутчер внутри меня перекрыл все рациональные идеи и мысли. Я согласился, и мы побежали куда-то по еле заметной тропке среди грядок с кабачками и картофелем. Среди дачных участков, окруженный ивовыми кустами и рогозом, жил своей жизнью маленький прудик, вырытый когда-то для искусственного полива бедных почв. Вот здесь-то и обосновалась семья гагар. Никогда бы не подумал искать их в такой обстановке!

– В отличие от чернозобой, краснозобая гагара тяготеет к небольшим безрыбным прудикам типа этого, – словно читал лекцию, говорил мой спутник. – Когда птенец еще маленький, самцу приходится летать за кормом на море.

В подтверждение слов Черенкова в воздухе послышался свист крыльев, и на воду грузно шлепнулась гагара с селедкой в клюве, которую она тут же преподнесла коричневому носатому малышу, проглотившему ее целиком с удивительной быстротой.

– Ну, на этом и расстанемся! – Александр Евгеньевич протянул мне в знак дружбы свою руку. – Будешь на Соловках – заходи в гости!

Я кивнул и крепко сжал его руку.

Так закончилось мое путешествие в удивительный, добрый и немного странный Соловецкий край. Главной моей целью было познание природы неизвестного места, и, по-моему, она была достигнута.

Кто знает, может, когда и придется снова вернуться сюда. Хотя, зная свою натуру странника, тяготеющую ко все новым и новым местам, я в это верю мало...

Прощайте, Соловки!..





ФОТО: ДЕНИС КИТЕЛЬ

# ГОРА

Гэта гора разрывае мне душу і цела. І вясна не ў радасць. Цёплы сонечны майскі дзень тускнее пад чорным покрывам майго смутку і роспачы. Бялюткімі пялёсткамі ўпрыгожвае тваю магілку дзічка. Чаромха нахіляе свае галінкі да твайго твару. Каб я ўмела крычаць, то мой крык запаланіў бы цэлы свет. Каб я ўмела плакаць, то мае слёзы шырокімі ручаямі пацяклі б па зямлі.

А памятаеш, мой любы, як мы ўпершыню прыляцелі сюды з выраю. Якім раем здаваліся нам гэтыя мясціны. Блакітныя хвалі азёр, зараснікі касачоў і белыя хмары нябёсаў – вось гэта прыгажосць!

Мы гадавалі тут сваіх дзетак. Памятаеш, яны былі тады яшчэ маленькімі пухнатымі камячкамі, хадзілі за намі гуртком, не адстаючы ні на крок. Ты грэў іх пад крыламі, а яны з такім задавальненнем хаваліся ў тваім густым пер'і. Потым яны выраслі і разляцеліся па свеце, каб стварацъ свае сем'і, каб гадаваць сваіх дзяцей. Дзе яны зараз, што з імі, вядома, пэўна, толькі ветру.

Я была побач з табою з першага дня нашай сустрэчы. Мы начавалі пад коўдрай росных траў. Свае самотна-рамантычныя мелодыі нам спяваў жоўты серп маладзіка. У тваіх вачах я бачыла сваё шчасце. Твае крылы абдымалі маю танклявую шыю. Мы вольна лэталі ў нябёсах, плавалі ў блакітных азёрах, і здавалася, гэтаму не будзе канца.

Але наша шчасце згарэла ў адно імгненне. У наш рай ступіла д'ябальская нага чалавека. Я бачыла гэтыя вочы. Яны былі напоўненыя злосцю. І я ніяк не магу зразумець: што мы ім зрабілі? Для чаго яны забіваюць нас? Да гэтага жудаснага дня я нават ніколі не бачыла вачэй, твараў гэтых істот.

Ты, мой даражэнькі, лёгкім лісточкам узвіўся ў неба. Ніхто з нас яшчэ не ведаў, што гэта быў твой апошні ўзлёт. «Бач, гэта мая свабода, і яе ніхто і ніколі не забярэ», – мабыць, гэта ты мне хацеў сказаць. Але чорная металічная «мушка» нацэлілася проста ў тваё сэрца. Ты трапятаў крыламі, усе стараўся затрымацца ў небе. Ты прагна глытаў паветра. А я нічым не магла дапамагчы табе. Я глядзела ў неба з зарасцяў трыснягу, і слёзы каціліся на маё крыло.

Потым д'ябальскія ногі шукалі твае цела. Але я нічым не выдала ні цябе, ні сябе. Дайце хоць аплакаць цела крылатага нябожчыка!!!

Ты ўпаў у зарасці прыбярэжнай чаромхі. Кроў у тваіх жылах стала халоднай, а ў адкрытых вачах застылі нябёсы. Такім я цябе запомню назаўседы. І без цябе я ўжо не змагу жыць, як раней. Ты – мой першы і апошні крылаты анёл. Мае жыццё без цябе губляе сэнс.

І я буду шукаць тыя вочы чортавай істоты, якія адабралі цябе ў мяне і адпусцілі тваю душу ў неба, дзе пануе вечная свабода. Я буду шукаць тую чорную «мушку», што пракалола тваё сэрца і выліла на зямлю тваю кроў.

І я абавязкова знайду ўсё гэта. І нашы душы сустрэнуцца ў блакітным небе. І мы ўжо будзем назаўсёды разам. І ні Бог, ні д'ябал нас ужо ніколі не разлучаць...

*Са слоў Гусыні запісала: Ганна Дудзіч, 17 год,*
*клуб «Крылаты дазор»,гімназія №1, г. Дзяржынск.*

НОВОСТИ ОРНИТОЛОГИИ

# НЕОЖИДАННЫЕ ВСТРЕЧИ

**Дмитрий ЯКУБОВИЧ**

Той зимой прихода морозов я ждал как никогда ранее. Очень мне не терпелось поснимать птиц на заснеженных просторах. Но, как известно, то, чего ждешь больше всего, как раз таки не торопится приходить. Так сложилось и в том году. Весь декабрь стояла поздне-осенняя погода, а настоящей зимой повеяло лишь в последние дни месяца.

Всего в двух километрах от моего дома протекает Неман, и как раз тут в него впадают теплые воды очистных сооружений. Благодаря этому вода здесь не замерзает при любом морозе, и наличие довольно обширной открытой акватории всегда привлекает большое количество зимующих птиц. Сотни крякв, десятки свистунков и больших крохалей, гоголи, малые поганки, серые цапли... В конце ноября я заметил на берегу реки кулика-перевозчика. В зимний период эта птица нетипична для здешних мест. Последняя встреча с перевозчиком в этом месте была восемь лет назад, тогда я наблюдал его на протяжении почти всей зимы. Вот и сейчас мне было очень интересно, до какой поры здесь продержится этот кулик. Первое время перевозчик был не очень доверчив и на хороший кадр с подхода не подпускал. Но со временем, при моих частых визитах, мне показалось, что кулик стал узнавать меня в лицо, свыкся с моим присутствием и просто перестал обращать на меня внимание. Оставалось только дождаться серьезных морозов, чтобы сформировались красивые заснеженные пейзажи для заднего плана, и, не строя засидок и укрытий, просто снять птицу. Времени для этого было вдоволь, поскольку перевозчик с отлетом не спешил и продержался возле теплых стоков до самого февраля, пережив и январские двадцатиградусные морозы, и обильные снегопады. Жаль, о дальнейшей судьбе этого кулика ничего не известно.

Однако зимующий перевозчик был не единственной интересной находкой в этом сезоне. В конце декабря привычно проходя по берегу вдоль кустов, в стае обычных для здешних мест синиц я заметил... пеночку! Она вела себя очень активно, постоянно перелетала с ветки на ветку и часто опускалась на снег. Правда, довольно скоро пичуга затерялась в обширных кустарниках, и в этот день я ее больше не видел. В тот день удалось получить всего несколько кадров с огромного (по сравнению с размером птицы) расстояния. По полученным снимкам можно было лишь с некоторой долей вероятности определить, что пеночка была теньковкой.

Первую зимующую в Беларуси пеночку упускать не хотелось, и поэтому в следующий визит на реку я решил все время посвятить только ей. Оделся в белый маскхалат, сел у кромки воды, где ранее птица чаще всего опускалась на землю. Ждать пришлось долго, несколько часов. Я уже почти смирился с мыслью, что пеночки здесь больше нет. Однако, как это часто бывает, она появилась, когда терпение мое было уже почти на исходе. Спустилась на снег недалеко от меня, но, к сожалению, не там, где я надеялся снять чудо-кадр. Прежде чем долгожданная фотомодель исчезла так же внезапно, как и появилась, мне все-таки удалось сделать с десяток кадров. Еще несколько часов ожидания результатов не принесли.

Немного побродив в округе, я решил оставить это бесперспективное занятие, а, поскольку время позволяло, посидеть еще немного в шалаше на уток. Укрытие было сделано в тех же кустах, где появлялась пеночка, но к тому времени я о ней уже и не думал, готовясь снимать подплывающих чирков. Так что появление теньковки прямо перед укрытием стало для меня полной неожиданностью. За отведенные мне капризной моделью несколько секунд я едва успел перевести объектив и всего раз нажать на кнопку спуска, после чего птица исчезла, словно ее здесь и не было. Только оставшийся «на память» почти во весь кадр портрет убедительно свидетельствовал о том, что встреча с теньковкой все же произошла наяву.

Больше я ее здесь не встречал. (фото на последней странице обложки)




***Ганна Чачуха,*** Мінск, 11 год




***Аляксандра Зянкевіч,*** Гродна, 10 год

**Горюющие гуси легко становятся жертвами несчастных случаев... они задевают провода высокого напряжения или попадают в зубы хищникам, потому что чувство самосохранения и осторожность у них притупились.**

*Конрад Лоренц*




***Анастасія Чыкелева,*** Барысаў, 10 год




***Арцем Лапіцкі, Маргарыта Каласоўская,*** Мінск, 14 год

**Горе, кроме того, сильнейшим образом воздействует на социальное поведение гусей. Охваченный горем гусь не в состоянии защищаться от нападения других гусей и очень быстро оказывается в самом низу иерархической лестницы.**

*Конрад Лоренц*




***Арцём Дзежыц,*** Гродна, 10 год




***Ірына Драніца,*** Барысаў, 12 год

**Кулік-перавозчык** *Actitis hypoleucos*
Фота: Дзмітры ЯКУБОВІЧ





**Сібірская пячураўка-будаўнічок** *Phylloscopus collybita tristis*
Фота: Дзмітры ЯКУБОВІЧ